# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 22 (1672) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК 29 МАЯ 1988 г. ЦАНА 20 зл.




Маладыя музыканты з Бельска, выхаванцы Сяргея Лукашука, які нядаўна адзначаў 25-годдзе сваёй мастацкай працы, — Тамаш Лукашук (сын Сяргея, іграе на гармоніку) і Адам Семянюк (іграе на басэтлі). Фота Ю. Вяжхоўскага.




ІНТЭРВ'Ю ДАЕ ЯН ЧЫКВІН

## Аснова — повязь вякоў

**— „Іду"! — заявілі Вы з вокладкі першага свайго зборніка. Аднак, як ні дзіўна, малады парыў кіраваў свае крокі ў вясковае дзяцінства, „дзе б'юць жыватворчыя крыніцы, дзе кожнаму можа прысніцца паэзіі магнітнае поле". Якое яно было ў Вашым сне?**

— На жаль, фізічна вярнуцца ў маленства немагчыма. Спадарожнічаць туды можна толькі ў думках, дзякуючы таму, што вэ ўнутраным свеце чалавека адналькава рэальна існуе для нас, як цяперашні час, таксама час мінулы і час будучы. Мы несупынна плаваем у гэтым бясформенным час-акіяне і не ведаем, дзе нас больш.

Хоць дзяцінства маё, звычайнага вясковага хлапчука, не было ружовым, але і не чорна-белым, бо былі ў ім усе колеры тагачаснага жыцця, то з далёкай перспектывы той перыяд уяўляецца мне зараз страчанай Аркадыяй, зямлёй запаветнай. Перш за ўсё таму, што бацькі мае мелі свой дом, даволі вялікі, адметны сваёй прыгожай архітэктурай. Тут жа быў абшырны гарод-сад, далей клуня, хлявы. Гэта быў, у засені старых дрэў і жываплотнага бэзу, салідны засценак, распаложаны крыху збоч вёскі. Чулася ва ўсім ім трываласць, мацата, бяспечнасць. Жылі мы тады не то што багата, але і не цягнулі жылы, каб пракарміцца. Сям'я была мнагалікая, многагалосая. Бацька мой быў чалавек кемлівы. Не прывязваючы дзяцей да зямлі, бо не было да чаго, ён прывіў нам пашану да кніжкі і прыроды. Вось у гэтым клімаце і рос я, душэўна свабодны і не пакалечаны дзікай працай.

Вяртаюся часта да дзяцін-

(Працяг на стар. 4)



РАПАРТ З МІЛЕЙЧЫЦКАЙ ГМІНЫ

## АЗІРНУЦЦА ЗА СЯБЕ...

Канчаецца чатырохгадовы тэрмін апошняга склікання мясцовых прадстаўнічых органаў народнай улады. Дык і ёсць нагода, каб азірнуцца за сябе, каб па-гаспадарску ацаніць пройдзены шлях.

Дзеля гэтага накіраваўся я ў Мілейчыцкую гміну. Чаму туды? Проста, так мне выпала. А можа яшчэ і таму, што гэты куток нашай роднай Беласточчыны ніколі не славіўся вялікімі дасягненнямі, не выдзяляўся натуральнымі багаццямі, не ганарыўся буйнай прамысловасцю. Жыццё там праходзіла неяк няспешна, паціху, без крутых паваротаў. На месцы, аднак, яно не стаяла. І вось у апошніх гадах Мілейчыцы бы́цццам бы памаладзелі, папрыгажэлі. На галоўных, праязных вуліцах паявіўся асфальт, праложаны водаправод. Вада падземнымі трубамі пацякла ў 1986 годзе не толькі ў дамы пасёлка Мілейчыцы. Водаправодам карыстаюцца ў вёсках: Ялтушчыкі, Грабарка і Паканева. Разам — 20 кіламетраў водаправода, якім карыстаецца 381 гаспадар. Пасля электрыфікацыі вёсак пастаўка вады ў сялянскія дамы і панадворкі з цэнтральных калектыўных водаправодаў з'яўляецца найбольш каштоўным здабыткам у жыцці нашай вёскі.

Начальнікам гміны ў Мілейчыцах з'яўляецца **Мікалай Бартнічук.** На гэтай пасадзе працуе ён ужо 14-ты год. Ведае тут усіх і яго людзі ведаюць ды паважаюць. У нашым ваяводстве Мікалая Бартнічука можна лічыць ветэранам дзяржаўнай адміністрацыі.

У гміне, якая мае выключна сельскагаспадарчы характар, найважнейшай справай з'яўля-

(Працяг на стар. 6)

ВЯРТАЕМСЯ ДА НАРОДНАГА

# ПА СЛЯДАХ КАШУЛІ

Неяк у пачатку гэтага года давялося нам пабываць у Гайнаўскім беларускім ліцэі. Заўсёды гасцінны і сімпатычны настаўнік-беларусіст Васіль Сакоўскі завёў нас у кабінет беларускай мовы, каб паказаць цудоўныя старыя вышываныя ручнікі, якія з'яўляюцца несумненна найбагацейшай дэкарацыяй гэтага кабінета. Пры нагодзе Васіль пахваліўся і новымі набыткамі. Паказаў два вельмі старыя цудоўныя ручнікі з пачатку нашага стагоддзя (яны ўжо былі паказаны ў „Ніве" — № 10 і 11) ды яшчэ старую мужчынскую вышываную кашулю з бялюткага кужалю. Кашуля была багата аздоблена блакітна-зялёна-чырвоным арнаментам, вышытым дробненькім падвойным крыжыкам.

Кашуля мяне заінтрыгавала. І можа не столькі тым, што была эфектам містэрнай работы колішняй майстрыхі, а хутчэй тым, што яна аказалася салідна паднашанай. Значыць, яна не праляжала шмат гадоў як прыгожая рэч і сямейная рэліквія, а была звычайнай і патрэбнай у жыцці кашуляй і пэўна цешыла прыгажосцю свайго гаспадара, калі апранаў яе ў святочную нядзелю.

Вырашыла я пайсці следам гэтага цудоўнага экспаната нашай аўтэнтычнай беларускай народнай культуры.

З дакументаў у ліцэі вынікала, што кашулю перадала ў школьны музей былая вучаніца ліцэя Галіна Адамюк з Чэхаў-Арлянскіх як кашулю свайго дзеда.

Гэты след завёў мяне ў Чэхі-Арлянскія.

У хаце застаю Надзю і Івана Адамюкоў. Пытаюся, што яны могуць сказаць пра старую кашулю.

— О, гэта кашуля майго таты Васіля Адамюка, — кажа Іван. — Даўно яна ў нас ляжала. Як памяць па бацьку. Ён у гэтай кашулі браў шлюб у 1932 годзе. Год пазней я нарадзіўся.

Але дзядзька Іван не памятае, каб бацька насіў гэтую кашулю.

— Магчыма, што яна бацьку яшчэ ад дзеда дасталася. Але хто гэта цяпер можа ведаць!

— А ў мяне яшчэ ёсць бабулін саян, — уключаецца ў размову Надзя. Яна адчыняе шафу і проста з ніжняй полкі бярэ сінюю спадніцу, як бы яе толькі што нехта насіў і паклаў на самым версе. — Саян вельмі стары, — гаворыць Надзя. — Мая мама, бабуліна дачка, нарадзілася ў 1907 годзе. І колькі сябе памятае, гэтая спадніца ў яе мамы была.



*Надзя Адамюк паказвае стары сіні саян сваёй бабулі Еўдакіі. Саян пашыты з самаробнай ваўнянай тканіны ўручную.*



*Вельмі старая вышываная кашуля з белага кужалю, у якой у 1932 годзе Васіль Адамюк браў шлюб Кашуля ўпрыгожана блакітна-зялёна-чырвоным арнаментам з дробнага падвойнага крыжыка.*

Пашыты саян з сіняй самаробнай ваўнянай тканіны, прыморшчаны ў таліі, а падол упрыгожаны трыма палоскамі сіняй шаўковай тасемкі. Уся спадніца пашыта ўручную, без машыны.

— А хто іх некалі, тыя машыны, на вёсцы бачыў? Усё шылі рукамі, — паясняе Надзя.

Адзінымі купленымі дробязямі ў вырабе спадніцы былі сіняя фарба ды тыя пару метраў тасемкі.

Не ў адной, пэўна, хаце яшчэ знойдуцца цікавыя старыя рэчы — сведкі даўнейшага жыцця нашых не такіх ужо і далёкіх продкаў. І толькі вялікай пашане да сваіх родных, пашане да іх умення, розуму, ды і проста для захавання памяці аб блізкіх людзях можам дзякаваць таму, што ёсць у нас яшчэ нямала цікавага даўнейшага адзення, прадметаў хатняга ўжытку і старых прылад. Шануйма іх!

І хочацца мець надзею, што ўжо ў хуткім часе гэтыя вырабы народнага мастацтва можна будзе пабачыць у нашым беларускім рэгіянальным музеі, які мы будуем супольнымі сіламі.

**Яніна Чэрнякевіч**

**Фота аўтара**

НІНА АМЕЛЬЯНЮК

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

**II. ХАРАКТАРЫСТЫКА БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ МОВЫ.**

**3. Паўночна-ўсходні дыялект беларускай мовы — працяг.**

На тэрыторыі паўночна-ўсходняга дыялекту беларускай мовы выдзяляюцца тры групы гаворак: полацкая, паўночная і віцебска-магілёўская.[1]

Полацкая група гаворак выступае на захад ад Полацка. Яе межы вызначаюць прыблізна гарады: Расоны-Бягомль-Свір. Характэрныя ёй наступныя моўныя рысы: 1. непаслядоўнае дысімілятыўнае аканне, гэта значыць, што побач з дысімілятыўным аканнем выступае недысімілятыўнае: *въда* і *вада;* 2. чаргаванне заднеязычных са свісцячымі: *дуга-дузе, рука-руцэ;* 3. словы: *мыша* (мыш), *гуся* (гусь); *гукаць* (гаварыць), *пяяць* (спяваць); *свякроўка; кручка, гручка* (бручка); *стаўбун* (гліняная пасуда з вузкім горлам для малака); *пастаўнік* (агароджанае месца для жывёлы ў полі ці ў лесе; *цмок* (вясёлка) і інш.

Паўночная група гаворак выступае на поўнач і паўночны ўсход ад Віцебска. Акрэсліваецца свірска-лепельска-віцебскім пучком ізаглос. Характэрныя ёй наступныя моўныя рысы: 1. цоканне — неадрозніванне (ц) і (ч): *дацка* (дачка), *пецка* (печка), *цалавек* (чалавек). Цоканне, а ўласціва яго рэшткі, захаваліся толькі ў некаторых гаворках гэтай тэрыторыі 2 форма творнага склону множнага ліку назоўнікаў, займеннікаў і прыметнікаў, якая супадае з давальным склонам: *з маладым людзям, за дамам:* 3. форма давальнага і меснага склонаў на *-ы* ад назоўнікаў жаночага роду на *-а: к сцяны, на сцяны;* 4. суфікс *-дл-* у назвах прылад *касавідла, цапавідла,* побач з іншымі варыянтамі суфікса: *касавілна цапавілна; касавіла, цапавіла* і з іншым суфіксам (-j-) *касаўё, цапаўё;* 5. наяўнасць прыналежных займеннікаў з суфіксам *-н-: іхны, ейны;* 6 словы: *палей, палюх* на азначэнне ручкі касы, *стоўб* — назва сахі ў студні з жураўлём, *грыжына* — назва бручкі, *лоб* — назва франтона.

Моўныя асаблівасці паўночнай групы гаворак выходзяць за межы Беларусі і выступаюць у гаворках РСФСР і ў рускіх і беларускіх гаворках у Літве, напр. цоканне з'яўляецца характэрнай асаблівасцю ноўгарадска-пскоўскіх і полацка-смаленскіх гаворак. „З'ява цокання, агульная для часткі беларускіх і рускіх гаворак утварае адзіны арэал. Моўную агульнасць на гэтай тэрыторыі можна тлумачыць гістарычнымі сувязямі полацкіх, смаленскіх, пскоўскіх і ноўгарадскіх земляў. Распаўсюджанне цокання займае тэрыторыю старажытнага рассялення крывічоў і славен і таму яго можна разглядаць як пляменную дыялектную рысу. (...) Цоканне з'яўляецца адной з нешматлікіх рыс, якія ўзыходзяць да гістарычнага часу. Перажылі гэту з'яву славене і значная частка крывічоў (за выключэннем усходніх) у выніку напластавання фінскага элемента."[2]

Пашыраны па-за межамі Беларусі таксама назвы прылад з суфіксам *-дл-,* які адны даследчыкі беларускай мовы лічаць польскім па паходжанню, а другія адзначаюць, што ў беларускай мове ёсць дзве групы слоў з гэтымі суфіксамі: запазычанні з польскай мовы і словы, утвораныя на беларускай глебе. Суфікс *-дл-* вядомы таксама латышскай і літоўскай мовам. А. І. Сабалеўскі выказаў меркаванне, што паколькі гэты суфікс найбольш пашыраны ў літоўскай мове, значыць, з'яўляецца літоўскім па паходжанню. Пскоўскія гаворкі былі некалі суседнімі з літоўскімі і іншымі славянскімі і маглі быць пераходнымі ад усходніх гаворак агульнаславянскай мовы да паўночна-заходніх. Такім чынам, наяўнасць суфікса *-дл-* у беларускіх, рускіх і польскіх гаворках мае агульнае і вельмі старажытнае паходжанне. „Магчыма, што ва ўсходніх славян (рускіх і беларусаў) і заходніх (палякаў) быў адзін продак — група крывічоў, якая па нейкіх прычынах не прайшла на поўнач. Наяўныя археалагічныя даныя сведчаць, што ў канцы I тысячагоддзя н.э. намячаецца перамяшчэнне насельніцтва паміж Пскоўшчынай і Верхнім Прынямоннем."[3]

Супадзенне форм давальнага і меснага склонаў даследчыкі лічаць асаблівасцю паўночнавелікарускіх гаворак. Магчыма, у беларускіх гаворках гэтае супадзенне з'явілася пад уплывам рускай мовы.

Супадзенне форм давальнага і творнага склонаў ахоплівае значны арэал рускіх, беларускіх, літоўскіх і латышскіх гаворак. У лінгвістычнай літаратуры ўказваецца, што рускае насельніцтва Літвы і Латвіі з'яўляецца выхадцамі з Пскоўскай зямлі.

„Моўныя асаблівасці, неаднародныя па часе ўзнікнення і паходжанню, могуць быць растлумачаны ў сувязі з гісторыяй народа. У Полацкім Падзвінні крывічы пасяліліся ў VII-VIII ст.ст. З поўначы іх суседзямі былі пскоўскія крывічы. У VII-IX ст. ст. на тэрыторыю крывічоў пранікаюць іх суседзі славене. Апошнія даходзяць да Верхняга Падняпроўя. Такое суседства і перасяленне адбілася на мове — славене, якія пасяліліся на тэрыторыі фіна-ўгорскіх плямёнаў, неслі з сабою фінскі элемент — цоканне. (...) Полацкае княства захоўвала сваю самастойнасць на працягу доўгага часу і, безумоўна, па сваіх этнічных і моўных асаблівасцях было бліжэй да непасрэдных суседзяў — паўночных і заходніх рускіх земляў. Таму па больш старажытных дыялектных рысах паўночная група гаворак аб'яднана з гаворкамі Пскова і Ноўгарада і мае некаторае адрозненне ад гаворак паўночнага ўсходу Беларусі."[4]

Віцебска-магілёўскай групе гаворак характэрныя наступныя моўныя рысы: 1. дысімілятыўнае аканне: *въда* (дзе ъ „рэдуцыраваны гук" вымаўляецца коратка паміж *а* і *ы*), але *вадзе;* 2. адрозніванне цвёрдасці-мяккасці *(р)* і *(р'): гару* (ад гара) і *гарю* (ад гарэць) — на асноўнай беларускай тэрыторыі выступае толькі цвёрдае *(р);* 3. адсутнасць чаргавання заднеязычных са свісцячымі: *на ду*

(Працяг на стар. 8)




## ВАЎКІ І ЛЮДЗІ

Прыйшоўшы дадому, я яшчэ не паспеў распрануцца, як у толькі што прынесенай „Ніве" ўбачыў загаловак „Ваўкі" ў рубрыцы „І так бывае" („Ніва" ад 3.IV.). Я з адной рукой у рукаве, у пярэдняй, прачытаў жахлівую праўду аб выпадку з дзіцём, якога „па-чалавечы" хацелі пазбыцца маці і яе каханак, вешаючы на дрэве ў глухім лесе. Але, на шчасце, дзіцё жыве, бо яго выпадкова выратавалі!

Хаця і загаловак „Ваўкі", і нехта ў аўтобусе назваў іх ваўкамі, то аднак я станаўлюся ў абарону ваўкоў і не толькі ваўкоў, а кожнага звера, якога аніяк нельга параўнаць з чалавекам. Ваўкоў з намі можна было б параўноўваць толькі тады, калі б яны рабілі сваім дзецям столькі крыўды, колькі робім мы, людзі. Я чытаў пра ваўкоў, якія тыднямі галадалі і жыццё аддавалі, каб выратаваць ад чалавека сваіх дзяцей... Але ніколі не чуў і не чытаў, каб ваўчыца пакінула сваё маладое на волю лёсу. А сярод людзей даволі часта здараецца так, што малых, бездапаможных дзяцей, калі не палохаюць, то забіваюць, калі не вешаюць, то рабакі ў нос запіхаюць. Быццам тыя дзеці прасіліся на свет. А суседзі маўчаць, бо не іх гэта справа. Калі аднак дзіцяці пашчасціцца і яно вырасце, а пасля напіша аб сваім жыцці, то ўсе раптам вырачаць вочы са злосці: „Як так можна пісаць пра сваіх бацькоў?! Гэта не сын, а бандыт, якога трэба было задушыць, калі яшчэ поўзаў!"

Бачыце, добрыя людзі, як яно ёсць: над малым можна знуткавацца, біць яго, марыць голадам, празываць, абражаць і пазбаўляць дзяцінства. А калі яно ў сваю абарону асмеліцца нешта адбрахнуць, то ўся ваколіца ведае, які ён „зладзюга" і хам, як ён крыўдзіць старую маці, якая яго на сваю галаву гадавала.

У тым канкрэтным выпадку я ўпэўнены, што міліцыя ім нічога не зрабіла. Пагаварылі, павучылі і пусцілі, бо ж трэба маці дзіцё гадаваць. А хто з нас палічыў, колькі існуе прытулкаў, у якіх гадуюцца дзеці-сіраты? Колькі бацькоў і маці жывуць і цешацца здароўем ды пашанай асяроддзя, а дзеці так і не ведаюць, хто іх бацькі, і астаюцца назаўсёды сіратамі, пад чужой апекай і на чужым хлебе. Яшчэ добра, што цяпер хаця дзяржавы дбаюць пра бедных падкідышаў, што не астаюцца галоднымі і абдзертымі. Як было за панскай Польшчы, многія з нас яшчэ памятаюць. Пісаць аб гэтым нярварта, бо каму? Хто цяпер верыць, што так было? Нават тыя, хто гэту геену перажыў, то і то здаецца яму, што бачыў усё толькі ў кашмарным сне. Людзі перасталі верыць самім сабе. Добра, што раны лечацца, але нельга дапускаць да штучнага гаення, бо пад засохлай скурай рана баліць. А калі так, значыць трэба аб гэтым пісаць. Мо будзе больш добрых

(Працяг на стар. 7)



# АЗІРНУЦЦА ЗА СЯБЕ...

(Працяг са стар. 1)

ецца ўласцівае загаспадаранне зямлі — гэтага асноўнага багацця тутэйшага насельніцтва. Толькі за зямлю ў Мілейчыцкай гміне ніхто не змагаецца. Дзяржаўны фонд зямлі пастаянна тут павялічваецца. Зараз набліжаецца ён да **тысячы** га, з чаго зямельныя ўгоддзі складаюць звыш 700 гектараў.

Гмінная адміністрацыя намагаецца распрадаць як мага найбольш гэтай зямлі. Планавалі прадаць 250 га, прадалі толькі 187 га, а 475 га ўдалося размеркаваць на доўгатэрміновыя арэндныя ўмовы.

Усё гэта, аднак, яшчэ поўнасцю не вырашае зямельнай праблемы. Пройдзе год ці два і зноў дзяржаўны фонд зямлі папоўніцца новымі дзесяткамі гектараў сялянскіх гаспадарак, ад якіх адракуцца наступныя састарэлыя іх уласнікі. Значыць, і ў Мілейчыцах наспявае неабходнасць радыкальнага вырашэння праблемы загаспадарання дзяржаўнага фонду зямлі — як у Кляшчэлях, дзе ўжо існуе дзяржаўная сельская гаспадарка, значыць, ПГР, як у Нурцы і Мельніку, дзе гэтыя дзяржгасы зараз наладжваюцца.

У Мілейчыцах пакуль што аб ніякім дзяржгасе ці аб нейкай іншай форме калектыўнага загаспадарання дзяржаўнай зямлі нічога не чуваць. Надалей лічаць тут на руплівасць сялян. Сяляне, аднак, задавальняюцца скромнымі дасягненнямі. Сярэдні ўраджай у гміне і збожжа, і бульбы шмат тут ніжэйшы ад сярэдніх ваяводскіх паказчыкаў. Выкарыстанне мінеральных угнаенняў ледзь перавысіла сто кілаграмаў хімічна чыстага рэчыва на 1 га зямельных угоддзяў. Наглядаецца спадак гадоўлі кароў і свіней. Толькі колькасць авечак на працягу чатырох мінулых гадоў павялічылася на нейкіх сем працэнтаў.

Значыць, азірнуўшыся за сябе ў галіне сельскай гаспадарчай вытворчасці на тэрыторыі Мілейчыцкай гміны, мы не ўбачым ашаламляючых дасягненняў. Ёсць, аднак, перспектывы на лепшую будучыню. Ужо цяпер тутэйшыя сенажаці даюць у сярэднім па 76 цэнтнераў сена з гектара. Гэта парадачны ўраджай. Ён стварае добрую аснову для развіцця жывёлагадоўлі ў недалёкай будучыні. Ужо цяпер наглядаецца павышанае зацікаўленне пародзістымі чорна-белымі ялоўкамі для далейшай гадоўлі і расплоду. Ёсць асновы меркаваць, што зацікаўленне жывёлагадоўляй будзе ў Мілейчыцкай гміне паглыбляцца. У даліне ракі Нурчык ужо каторы год ідзе меліярацыя і комплекснае загаспадаранне сенажацяў. Быў гэта адзін з асноўных пунктаў перадвыбарчай праграмы гміннай арганізацыі ПРОН. На ажыццяўленне гэтага задання выкарыстана ўжо звыш ста мільёнаў злотых. Меліярацыя закончыцца ў 1990 годзе.

А што з іншымі перадвыбарчымі прапановамі і патрабаваннямі жыхароў Мілейчыцкай гміны?

Найбольш агульна можна было б сказаць так: ніводная прапанова не пайшла ў кошык на смецце, усе былі разгледжаны з належнай увагай. Прасочым гэта на некаторых прыкладах. Не першы ўжо раз паяўлялася патрабаванне жыхароў паўднёвай часткі Мілейчыцкай гміны, каб урэшце-рэшт чыгуначнікі пабудавалі ў Баравіках хаця б скромную пачакальню. Справа цягнецца ад заканчэння вайны. Гмінныя ўлады дагаварыліся цяпер з дырэкцыяй чыгункі ў Седльцах наконт будовы гэтага прыпынка грамадскім пачынам.

У Белках на кошт гміны занава пакрылі этэрнітам будынак вясковай святліцы. У Мядзвежыках закончана пабудова вясковай святліцы і пралажана цвёрдая дарога з Мядзвежыкаў да шашы ў Чаромху. Гэты пачын сялян ацанілі амаль на 3 мільёнаў злотых.

Шмат якія перадвыбарчыя прапановы насельніцтва Мілейчыцкай гміны адносяцца да рамонту і пабудовы дарог. І так: адрамантавалі дарогу з Паўлава ў Рагачы, адбудавалі мост на рэчцы Нурчык у вёсцы Левашы, пры выдатнай грамадскай дапамозе пралажылі дарогі ў Сабятына — 300 метраў, Мілейчыцы-Ялтушчыкі — 500 м, хутар Асінкі — Белкі — 200 м, з Мядзвежыкаў на свінаферму — 200 м, Валкі — Любейкі — 350 м, у вёсцы Левашы — 300 м, з вёскі Сабятына на сенажаць — 2,5 км.

## ДЗЕЦІ З КАРАКУЛІНА

Ліст Юзэфы Свідэрскай у Каракуліна быў напісаны 8 верасня 1944 года, ледзь паўтара месяца пасля вызвалення Беластока. Атрымаў ліст з дому і Генрык Мальшка.

— Было гэта зараз пасля вызвалення Беластока, — успамінаў ён. — Я нічога не спадзяваўся, думаў, што цуд нейкі здарыўся. Раптам бяру з рук дырэктара ліст ад маці, якая піша, што таксама шчасліва перажыла вайну: яна, мая сястра ды яшчэ адзін брат у мяне паявіўся... Па 30-50 разоў перачытваў я гэтае кароценькае пісьмо! Вядома, што адразу я адпісаў, ды яшчэ паабяцаў маме, што магу даслаць ёй некалькі пудоў мукі, каб не галадалі, каб мелі з чаго хлеб спячы... Я ж тады працаваў у калгасе „Красная звязда" і, сапраўды, мог бы раздабыць нейкі мяшочак мукі.

Ліст ад маці Генрыка Мальшкі не захаваўся, але ліст ад Юзэфы Свідэрскай вось у мяне ў руках і з'яўляецца зараз каштоўным дакументам гэтага змрочнага ваеннага часу. Юзэфа Свідэрская пісала:

„К начальніку детдома.

Будьте так добры, сообщите мне о том, есть ли здесь Данута Свидерская или где-нибудь в другом городе. Николай Кослов прислал письмо домой и писал, что все дети, что были в Друскениках, все живы и здоровы, но я не знаю, есть ли моя дочь здесь или нет..."

Тут мяне перапыніў Генрык Букерт.

— Трэба праўду сказаць, — заявіў ён, — што не ўсе дзеці былі там „живы и здоровы", як напісана ў гэтым лісце. Трое нашых сяброў, здаецца, загінула. Памятаеш? — ён звярнуўся да Данкі Свідэрскай. — Была з намі Райка Кардаш з Заблудава. Аднойчы летам 1944 года захацелася ёй пакатацца па Каме. А тут нечакана паявіўся на рэчцы вялізны параход. Узнялася вялікая хваля — і лодка перавярнулася. Рая і яшчэ адна дзяўчынка-яўрэйка не змаглі выратавацца.

— І яшчэ адна яўрэйка памерла ў бальніцы, — дакінула Данута Свідэрская.




— І хлопец адзін, што дарваўся да свежага, яшчэ гарачага хлеба, і скончаўся ён ад кішачнай колькі, — успомніў Генрык Букерт.

На ліст маці Данкі Свідэрскай адпісаў сам дырэктар Самуіл Пеўзнер.

* * *

У рэдакцыйным пакойчыку сядзела іх трое: Данута Свідэрская-Ліпская (Данка-Белая), Данута Шумінская-Рашкевіч (Данка-Сіняя) і Генрык Букерт.

Першы раз ад вяртання ў Беласток яны зышліся ў маёй прысутнасці ў гэтым „ніўскім" пакойчыку.

— Божа мой! — усклікнула Данута Шумінская. — Яшчэ і сёння сняцца мне гэтыя калгасныя палі. На лета вывозілі нас да працы ў калгасе. Памятаю, назначаць норму: вялізны загончык для праполкі, напрыклад, морквы. Морква як хвосцік у мышы, затое асот — па калена. Пальцы пухнуць, пот вочы залівае, хрыбет баліць. Іншым разам даводзілася зрываць струкі спелага гароху: 150 метраў даўжыні і метр шырыні — гэта палоска на дзённую норму. Кожная з нас старалася як магла хутчэй выканаць гэтую сваю норму, бо раней нельга было зыйсці з поля. Зрэшты, ударнікам, як тады называлі самых лепшых, прыслугоўвалі прывілеі: ім не абмяжоўвалі харчовых пайкоў, выдзялялі лепшую вопратку ды ў кіно пускалі ў першую чаргу. Вось Ірка Ханеўская ў нас найчасцей была ўдарніцай, а мне сіл не хапала, я хварэла...

— Найгоршая для мяне была першая зіма, — цяжка ўздыхнула Данута Свідэрская-Ліпская. — Холадна, голадна і цёмна. Толькі што пасялілі нас у Каракуліне. Пакой вялізны. Пасярэдзіне адна гліняная печка, а пад сценамі 16 жалезных ложкаў з саламянымі матрацамі, а наверх, каб прыкрыцца — адзін плед. Толькі недзе цераз год дырэктар Пеўзнер расстараўся нам цяплейшы абутак і вопратку. Мне, для прыкладу, дасталіся белыя цёплыя валёнкі і пальто на ваціне, з шоўкавай падшэўкай... На шчасце, у школу было недалёка, толькі збегчы з горачкі. А калі марозы даходзілі да 40 і болей градусаў, дык мы зусім у школу не хадзілі...

У Мілейчыцах адрамантаваны вуліцы: 1 Мая і Кузьміцкага, разам 1,7 км, што каштавала амаль 36 мільёнаў злотых. Пракладзены тратуары на вуліцах: Баравіка, Нурэцкай, Янушэвіча, Заблоцкай, Міхноўскага і Школьнай. Распачаўся капітальны рамонт колішняй яўрэйскай сінагогі. Пасля рамонту будзе тут Мілейчыцкі дом культуры. У самым цэнтры пасёлка паявіўся ўжо пад дахам арыгінальны будынак пошты.

Значыць, шмат чаго змянілася ў Мілейчыцах і ў навакольных вёсках. Пасёлак павесялеў, а вёскі папоўніліся новымі дарогамі, водаправодамі, святліцамі.

На жаль, мілейчыцкі ГС адмовіўся ад пабудовы спецыяльнага будынка для тутэйшага рэстарана. А ў старую „мардоўню“ лепш не заходзіць. Дык няма ў Мілейчыцах месца для сяброўскіх, неабавязкова алкагольных, сустрэч. Гэта трэба запісаць у недахопы тутэйшай улады. Не падумала яна таксама аб выкарыстанні свайго прыроднага багацця. Гэта чыстае паветра і цішыня. У даваенны час Мілейчыцы славіліся як антытуберкулёзны аздараўленчы цэнтр. Цэлы лес між дарогамі ў Нурэц і Рагачы быў забудаваны яўрэйскімі дачамі, якія здаваліся на лета ў арэнду. Гэтае месца адзначалася своеасаблівым, вельмі карысным мікракліматам. Можа, падумаць аб аднаўленні гэтай традыцыі?

Гэта ўжо задача для новай мілейчыцкай рады нарадовай, якая зараз жа пасля выбараў абавязкова будзе азірацца за сябе, каб крытычна ацаніць пройдзены шлях яе папярэднікамі. Асабліва ў галіне належнага выкарыстання зямлі трэба будзе тут моцна паднатужыцца. Ды кожны час мае свае патрабаванні і ніхто не можа ведаць, як уладзіцца наша жыццё на працягу гэтых чарговых чатырох гадоў. Напэўна будзе яно працавітае.

**Віктар Рудчык**
**Фота аўтара**



*У цэнтры Мілейчыц пошта пабудавала сабе асобны будынак.*

— Страшна было залазіць у халодную пасцель, — Данута Свідэрская на ўспамін аб гэтым і цяпер уздрыгнула. — Па дзве звіваліся мы ў клубочак, каб хаця крыху цяплей нам было. Знаходзілася сярод нас адна маленькая беларусачка, Валя Калуцкая, здаецца. Яна была з Гомеля або Мінска. Гэтая дзяўчынка ведала безліч розных займальных казак і ахвотна іх апавядала, але хацела, каб нашыя сяброўкі бралі яе па чарзе да сябе ў ложак. Мы з вялікай ахвотай абагравалі Валечку цяплом уласнага цела, каб толькі яна нам расказвала дзівы розныя і небыліцы страшныя. Не было ж тады ані тэлевізараў, ані радыёпрыёмнікаў. Ды спачатку ў Каракуліне не было і звычайнага электрычнага святла, пазней падключылі электрычнасць і абсталявалі радыёапараты. Аднойчы па радыё апавясцілі: „Наши войска перешли реку Белую и освободили город Белосток...“ Мы ўзнялі смех. То ж мы ведалі, што раку Белую можна ў Беластоку пераскочыць адным скокам. Смяяліся мы і адначасова радаваліся, што наш родны горад ужо свабодны. З гэтай нагоды быў падрыхтаваны ў нас спецыяльны абед, мы атрымалі новую вопратку.

— А я тады знаходзілася на працы ў калгасе, — неяк сумна адказала Данка-Сіняя. І толькі пад канец жніўня дайшла да мяне вестка, што можна ўжо адпраўляць пісьмы ў Беласток...

— Вы, здаецца, моцна хварэлі, — звярнуўся я да Дануты Свідэрскай.

— Ой, страшэнна! — усклікнула яна. — Найперш апанавалі мяне балячкі. На нагах і на руках. Нясцерпны боль. Здаецца, што ўсё цела яны паразрываюць. Агнём пякло. Хадзіць ужо не магла, а тым болей працаваць. Цэлымі начамі енчыла ад болю. А пасля яшчэ прычапілася да мяне малярыя, каб яе трасца... — уздыхнула Данута Свідэрская, а яе сяброўка, Данута Шумінская-Рашкевіч, дакінула:

— Я таксама пакутавала ад малярыі і ад тыфу нават...

* ✲ *

Данка Шумінская і Ірка Ханеўская жылі ў Беластоку пасуседску, на вуліцы Сталэчнай. Разам яны хадзілі ў тую ж самую пачатковую школу № 2, якая памяшчалася ля вуліцы Грунвальдскай і разам 7 чэрвеня 1941 года з вялікай радасцю адправіліся на адпачынак у піянерскі лагер, наладжаны над Нёманам, у лесе за Друскенікамі. Каб не гітлераўскае нашэсце на Савецкі Саюз, якое раптам абарвала бестурботны адпачынак многіх сотняў дзяцей, дык піянерскі лагер над Нёманам запісаўся б у іх памяці самай светлай старонкай.

Бацькі Іркі і Данкі былі рабочымі, працавалі на чыгунцы. Абедзве дзяўчынкі дома не ведалі вялікай раскошы. А ў Друскеніках дзяцей кармілі выдатна. Кармілі і апекаваліся імі, наладжвалі цікавыя гульні.

— Толькі быў гэта, — засцерагаецца Ірына Ханеўская-Томчык, — зусім іншы піянерскі лагер ад гэтага, пра які вам ужо расказвалі Данута Свідэрская, а таксама Генрык Букерт, Генрык Малышка ці Рамуальд Зайкоўскі і Эдвард Станішэўскі. Яны адпачывалі асобна.

— Калі гаварыць пра тадышніх хлопцаў, нашых сяброў, — Данута Шумінская заглянула ў нейкі спісак, — дык разам з намі найперш у Друскеніках, а затым аж ва Уфе знаходзіліся: Ян Гжэндзінскі, Чэслаў Яварoўскі, Юрка Радзюкевіч, Вальдэк Пясецкі, Багдан Журынскі і Клосэк, імя якога я не ведаю...

— Добрая ў вас памяць! — захапіўся я.

— Не, у мяне добрыя нататкі, якія захаваліся яшчэ з таго часу, — сказала Данута Шумінская-Рашкевіч. — Я заўжды любіла запісваць розныя рэчы сабе для памяці.

Пазней я пераканаўся, што яна, сапраўды, перахавала шмат якія ўласныя запіскі, якія цяпер сталіся ўжо вартаснымі дакументамі таго змрочнага часу.

— А спісак дзяўчат, вашых сяброўак, магчыма, у вас захаваўся? — паўсур'ёзна, паўжартам запытаў я ў Дануты Шумінскай-Рашкевіч.

— А як жа ж! — на маё здзіўленне зусім сур'ёзна адказала яна. — Калі ласка, вось спісак сяброўак, з якімі давялося мне жыць і спаць у палаце № 6 Дзяржаўнага дзіцячага дома ў горадзе Уфа, — працягнула яна мне лісток пашарэлай, крыху ўжо прыжоўклай паперы, на якой з аднаго боку акуратна быў разрысаваны план размяшчэння паасобных пакояў у гэтай жа палаце № 6, а на адвароце — выпісаны прозвішчы маленькіх жыхароў, якія спалі на тых жа ложках.

**Віктар Рудчык**

(Працяг са стар. 6)




людзей? Сярод добрых людзей не хопіць месца дрэнным і на зямлі запануе шчасце. Я вельмі хачу, каб тая дзяўчынка ніколі не зазнала ніякае крыўды ад людзей і вырасла на вялікага чалавека. А яе маці — каб ніколі больш не мела дзяцей.

**Васіль Петручук**

## КАБ БЫЎ ХЛЕБ І ДА ХЛЕБА — ПРАЦАВАЦЬ ТРЭБА!

Прачытаў я артыкул Алеся Барскага „На мяжы“ ў „Ніве“ ад 10 красавіка, у якім апісвае ён даўнейшае жыццё. Хачу і я дакінуць сваіх пару слоў, што і ў маёй радні было гэтак жа. Мы ў матулі кралі цеста з дзяжы. Маці, каб нам дагадзіць, брала лапату і клала на яе аер або дубнякі, а на гэта крыху цеста — і ў печ, калі ў ёй гарыць, напячэ гэтага перапечку, абдзеліць нас па кавалку, і мы з'ядаем, бы тыя гусяняты, мала не давімся, так нам смачна! Потым насыпле маці бульбы ў прысак печкі, і, калі яна спячэцца, то і яе мы ўправім за абедзве шчокі, разам і з лупінамі, выцершы толькі аб вопратку. Аж слінка цякла, так елі!

Каб гэта так цяпер маці якая дала свайму дзіцяці таго перапечку або бульбы з лупінамі, то цяперашняе дзіця ляснула б тым перапечкам ці бульбаю маці — бацьку ў лоб! Трэба сказаць, што перапечак быў з молатай у жорнах мукі, якая больш была падобнаю да крупаў.

Хлеб садзілі вялікімі боханамі на лісцях аеру або з дуба. Лісці запасілі яшчэ ўвосень, на зіму. Хлеб пяклі на цэлы тыдзень або і на два, у залежнасці ад таго, колькі яго мелі, столькі і елі. Цвілы хлеб ніхто не выкідаў. Бацька жартам прыгаворваў: „Еш, то грымотаў не будзеш баяцца“. І мы елі, бо сапраўды баяліся. Страх гэты быў паганскі, але быў і ўсё. Елі тую цвіль і рабіліся адважнейшымі, так хацелі імі быць.

А што ж гэта цяпер мы вычаўпаем з хлебам?! Ідзем у краму, абмацваем буханкі ды дапытваемся, ці часамі не ўчарашнія. Я думаю, што раней ці пазней мусім так награшыць, што і хлеба не будзе. Як за Герка кілбасамі падкідаліся, і чым гэта закончылася... Наш народ нічога не шануе, самога сябе ён не шануе! Займаецца марнацыяй і чакае манны з неба. А з неба ўсяго дождж або снег ці град можа пасыпацца, іншы раз пясок, калі віхура вялікая пяройдзе.

Каб быў хлеб і да хлеба — працаваць трэба! Дарагі чытач, ты скажаш ды запытаеш, чаму гэта калісьці, хоць усё шанавалі і добра рабілі, так цяжка жылі, дзецярня хлеба не могучы прычакаць, цеста з дзяжы хапалакрала? Не прасі, чытач, Бога, каб той час вярнуўся! І дзякуй Богу за гэта, што маеш! І не чакай, каб над табою запанавалі паны, якім трэба было за хлеб пяць дзён працаваць у тыдзень, і толькі шосты быў сабе, або нават і не шосты, а нядзеля.

**Эдвард Шчасновіч**

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

М. Танк

## ШЧАСЦЕ

Проста шчасце людское,
Так як і наша з табою,

Пэўна, складаецца з солі,
З хлеба, сабранага ў полі.

З поту, дарожнага пылу,
З роднага небасхілу,

З дружбы, мацнейшай ад смерці,
З песні... І так мне здаецца:

Каб з чаго іншага скласці,
Дык ці было б яно шчасцем?

Мікола Маляўка

## УСЁ ПАЧЫНАЕЦЦА З РУК

Над полем спявае жаўрук,
І цэх завадскі прачынаецца —
Усё пачынаецца з рук,
З работы усё пачынаецца.

Зямля прыгажэе наўкруг,
А час, ён прыспешвае, цікае —
Усё пачынаецца з рук:
І сад, і будоўля вялікая.

Кавальскага молата стук,
Пакой, цішынёю ахутаны, —
Усё пачынаецца з рук:
І просты станок, і камп'ютары.

Капры падняліся ўгару,
За шахтамі — поле ўзаранае, —
Усё пачынаецца з рук:
І соль, і буханка духмяная.

Адкрыцці прыводзіць у рух
Не нейкая сіла магічная —
Усё пачынаецца з рук:
І плуг, і ракета касмічная.

Аб подзвігах марыць хлапчук,
На мару з дзяцінства
раўняецца —
Усё пачынаецца з рук,
З работы усё пачынаецца.

Віктар Шымук

## ЗАЗУЛЬКА

Над ракою Зазулька
Ў час світальнай зары
„Ку-ку, ку-ку“, — зязюлька
Закувала ў бары.

І па звычцы даўнейшай
Лічаць людзі заўжды
Накуваныя ў лесе
Той зязюляй гады.

А зязюля кукуе,
Аж ахрыпла ў бары.
Славіць рэчку малую
На світальнай зары.

Даўгалецця жадае,
Каб быў мір і спакой
Над зязюліным краем,
Над Зазулькай-ракой.

## СПАБОРНІЧАЛІ ШКОЛЬНЫЯ ТЭАТРЫ

7 мая ў Бельскім доме культуры адбыўся чарговы цэнтральны агляд школьных тэатральных калектываў.

На конкурс прыехала 11 тэатраў з 9 школ Беласточчыны. Удзельнічалі дзеці рознага ўзросту. Наймалодшымі аказаліся вучні другога і трэцяга класа з Плёсак, якія прыехалі на конкурс з п'есай „Праведалі“. Падрыхтавала іх настаўніца Леаніла Рудэчка.

Калектыў з Орлі паставіў вельмі старанна жартоўную п'есу Юркі Геніуша „Вывара-жыла“. Вельмі добра заграна тут была роля бабкі-варажыхі, цікавая была дэкарацыя сцэны народнымі вырабамі. Працавала з дзецьмі ў гэтай пастаноўцы настаўніца Анна Шыманская.

Са школы ў Пашкоўшчыне дзеці прывезлі цікавую апрацоўку народнай казкі „Валовая хатка“. Гледачам спадабаліся


Сцэнка з п'есы „Вываражыла“ ў пастаноўцы вучняў з Орлі.


Кланяюцца гледачам пасля свайго выступлення артысты з казкі „Валовая хатка“. Гэта дзеці са школы ў Пашкоўшчыне.


Удзельнікі тэатральнага калектыву са школы № 3 у Бельску. Яны выступілі з п'есай „Пасля ўрокаў“.

вясёлыя звяры ў масках, а таксама жывыя лясныя ёланкі, ролі якіх у п'есе выконвалі дзеці. Рыхтавала сцэнку з вучнямі настаўніца Ірына Жменька.

Са старой беларускай сцэнічнай класікай выступілі калектывы з Барысаўкі („Мікітаў лапаць“) і з Вулькі-Нурэцкай („Міхалка“). Тэатр з Барысаўкі задзівіў усіх гледачоў вельмі багатай сцэнаграфіяй: на сцэне — дзве прыгожыя вясковыя хаты, багацейшая і бяднейшая, нават разам з платамі і гародчыкамі, цікавыя беларускія ўборы з пачатку нашага стагоддзя, добра, вельмі спела і ўмела выкананыя ролі. Вельмі натуральна і вясёла выступіў у ролі Мікіты Янка Каролька. Ён і атрымаў за гэта „Зорчыну“ ўзнагароду. Працуе з калектывам ужо не першы год настаўніца Валянціна Дзмітрук (у мінулагоднім конкурсе калектыў заняў першае месца).

Вельмі арыгінальна і з вялікай сцэнічнай культурай выступіў тэатр лялек са школы № 3 у Бельску. Казку „Чаму ў зубра хаты няма“ паставілі пад кіраўніцтвам настаўніцы Ларысы Бурылы. Апрача цікава выкананых лялек і добрага акцёрскага выканання, п'еса была ўдана ўзмоцнена патрыятычным акцэнтам — песняй аб Белавежскай пушчы.

Школа № 3 у Бельску — найбольшая падставовая школа ў Польшчы з навучаннем беларускай мовы (700 вучняў) — выступіла з яшчэ адным школьным тэатрам — вучні пятага класа пад кіраўніцтвам настаўніцы Міраславы Маркевіч выступілі з п'есай „Пасля ўрокаў“. Пастаноўка аказалася таксама вельмі ўданай.

Аж тры разы паявілася на сцэне п'еса Міхася Скрыпкі „Першыя крокі самастойнасці“. Выступілі з ёй калектывы са школ у Пасынках, у Ласінцы і ў Махнатым. Найлепш атрымалася ў вучняў з Пасынак.

Настаўнік з Махнатага Янка Міранюк прывёз два школьныя тэатры. З „Першымі крокамі самастойнасці“ выступілі малодшыя дзеці, а старэйшыя паказалі п'еску Валянціна Зуба „Не на тым коніку“. Выйшла цікава.

Прагледзеўшы ўвесь гэты багаты рэпертуар, камісія вырашыла, што найлепш выступілі тэатры са школы ў Барысаўцы і тэатр лялек са школы № 3 у Бельску. Ім супольна было прызнана першае месца. Другое месца прызнана калектывам са школы ў Пашкоўшчыне і другому калектыву школы № 3 у Бельску. Два трэція месцы — школам у Махнатым і Пасынках. Адзначана было добрае выступленне калектываў з Орлі і Плёсак.

Найлепшыя акцёры з усіх калектываў атрымалі ўзнагароды, а найлепшыя школьныя тэатры — узнагароды Куратоpыі асветы і выхавання.

Яніна Чэрн - віч
Фота аўтара

З суседняга агародчыка

## У АБЕДЗЕННЫ ПЕРАПЫНАК

Андрэйку на дзень нараджэння дзядуля падарыў бінокль, і хлопчык не выпускаў яго з рук, разглядваў пешаходаў на вуліцы, машыны, што спыняліся ля шматпавярховага дома палепшанай планіроўкі.

Наводзячы акуляр на чырвоны „Масквіч“, хлопчык чытаў па складах:

— Ла-та-рэй-ная... Глядзі, тата, машыну па латарэйнаму білету выйгралі.

Узяўшы бінокль, бацька Андрэйкі сапраўды на машыне прачытаў толькі што пачутае слова. Больш таго, разгледзеў на дзверцах легкавіка і знак ДТСААФ.

— У гэтай машыне білеты латарэйныя прадаюць, — сказаў бацька.

— А за ёй, — сын зноў прыпаў да бінокля, — ла-ба-ра-тор-ная. Ух ты, і напішуць жа. А ў ёй што прадаюць?

— Нічога. Машына людзей возіць.

Тым часам з усіх бакоў пад'язджалі і спыняліся ля дома ўсё новыя і новыя машыны. Андрэйка чытаў напісанае на дзверцах, а бацька спрабаваў растлумачыць, каго возяць дэзінфекцыйная, пошукавая, спецыяльная, аварыйна-тэхнічная, тэхдапамога, дзяржкіно, карэспандэнцкая, агітацыйная машыны.

— А чаго яны ўсе тут сабраліся?

— Людзі на абед прыехалі, — адказаў бацька.

— Татка, а чаму не напісаць — абедзенная?

Бацька ўсміхнуўся:

— Рана табе задаваць такія пытанні. Падрасцеш, сам зразумееш...

Іван Пяшко







## ЯК МАМА

Ранкам Эла
Моркву ела.
Ела,
Ела,
Недаела.
Мама кажа ёй:
— Даеш,
Будуць вочкі
Бачыць лепш.
Эла
Моўчкі уздыхнула,
Потым туфелькі абула.
Моркву згрэбла
З фартушка
І... бятом —
Да катушка,
Дзверцы ў клетку
адчыніла
І, як мама,
паўтарыла:
— На, мой зайчык,
Моркву з'еш,
Будуць вочкі
Бачыць лепш.

Уладзімір Мацвеенка

## УЗРАДАВАЎ

— Сёння я прынёс чацвёрку, — з радасцю паведамляе вучань бацьку.

— Малайчына, сынок, — сказаў той, — тады прынясі з пограбу яйцы і агурок.

— Бабуля, ён ніяк не засынае — праспявайце яму па тэлефону калыханку.



Ён можа ўсё... што пад сілу яго бацьку.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

На купе пяску гуляюць два хлопчыкі:

— А дзе твой тата працуе? — пытае першы.

— На ферме, — адказвае другі.

— А што ён там робіць?

— Казала маці, што спіць.

— А калі прыдзе з працы, што ён дома робіць?

— Паесць і лягае спаць.

— Ну, а калі добра выспіцца, што ён тады робіць?

— Ідзе на работу, бо тады ўжо ноч.

*

— Татка, што такое заапарк? — пытае маленькая Юргіта.

Тут падыйшоў Кіндзюліс і сказаў:

— А гэта такое месца, дзе звяроў ахоўваюць ад людзей...

*

У сачыненні на тэму „Мой бацька“ адзін вучань напісаў: „Мой тата можа пераплысці мора, пяшком перайсці пустыню, перамагчы тыгра... Мой тата можа ўсё, але часцей за ўсё яму даводзіцца мыць посуд і выносіць смецце“.

## СВЕЧКА

Вечарам Міколка з бацькам вярталіся ад бабулі. Ехалі на матацыкле. Раптам матор заглух.

— Зноў гэтая свяча! — сярдуе бацька.

— Нічога дзіўнага, — глыбакадумна заўважыў шасцігадовы Міколка. — На вуліцы такі вецер.

З „Весніка Задрыпоніі“

## ДЗЕЦІ — НАША БУДУЧЫНЯ

Учора ў ачуцінаўскім радзільным доме нарадзіўся вядомы паэт.

## ДАВЕДНІК

Педагог — чалавек, які ведае як выхоўваць чужых дзяцей, лепш, чым сваіх.

## ВАРУХНІ ГАЛАВОЮ



Сярод раскінутых дэталей не хапае адной, без якой нельга скласці куб. Якая гэта дэталь?

Адказ: не хапае дэталі 6.

## ЧЫЙ ЖА?

Міліцыянер пытае хлопчыка, які заблудзіўся:

— А чый жа ты будзеш?

— Мама кажа, што бацькаў, а тата, што мамчын, — скрозь слёзы адказаў малы.



## РОБАТЫ — ЗАБОЙЦЫ

Англійская газета „Дэйлі тэлеграф“ паведаміла аб тым, што робаты, якія так шырока цяпер выкарыстоўваюцца ў японскай прамысловасці, аказаліся здольны на забойства. Спецыяльны даклад міністэрства працы, апублікаваны нядаўна, аналізуе 10 выпадкаў забойстваў апаратараў робатамі. Чатыры выпадкі здарыліся з-за неправідловых дзеянняў апаратараў, а апошніх робаты самі пачыналі атакаваць сваімі стальнымі рукамі чалавека. Першае забойства было здзейснена ў 1981 годзе, калі рабочы быў атакаваны робатам у той час, як папраўляў станок. На прамысловых прадпрыемствах краіны працуе 90 тысяч робатаў.

## МОВА ВЕЕРАЎ

У калекцыі амерыканца Чарлза Франса, які жыве ў штаце Аклахома, сабраны 25 вeераў старадаўняй работы; некаторыя з іх - упрыгожаны жэмчугам, пазалочаны, інкруставаны слановай косцю. Усе веееры былі зроблены ў краінах Паўднёва-Усходняй Азіі. Збіраючы калекцыю, Франс вывучыў і „мову веераў“. Дык па існуючых калісь у Кітаі і Японіі правілах з дапамогай веера можна было не толькі падаць умоўлены знак, але і весці „размову“. Напрыклад, дакрананне веера да левага вуха азначала „Прашу, ні аб чым нікому не расказвайце, захавайце ўсё ў таямніцы!“



Толькі гены не атрымліваюць па знаёмству.